У нумары: КАВАЛАК САЛА ○ БАГУШЭВІЧ ЖУРНАЛІСТ ○ НОВАЕ ПРА АЛІМЕНТЫ


На ўзлессі. фота: Коля Лес


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 23 (380) | ГОД VIII | 9 ЧЭРВЕНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


НАСУСТРАЧ IV З'ЕЗДУ БГКТ

## ПАРА ЗАДУМАЦЦА НАД ТЭАТРАМ

Значэнне тэатра ў жыцці нацыянальнай меншасці — двалкае. Спаўняе ён, падобна як у кожным асяроддзі, вялікую ролю ў павышэнні агульнага ўзроўню культуры насельніцтва, з другога боку — уносіць ён вельмі істотны ўклад у развіццё і папулярызацыю культуры і мастацтва ў роднай мове.

Ці існуюць шанцы на арганізаванне беларускага тэатра для нашага насельніцтва ў Польшчы? Пытанне гэтае несумненна складанае, тым не менш цікава разгледзець яго.

У выніку сістэматычнай апекі з боку народнай дзяржавы з кожным годам штораз лепш забяспечваюцца патрэбы беларускай нацыянальнай меншасці ў галіне асветы і культуры на роднай мове. Большае чым у сярэднім у Польшчы развіццё мастацкай самадзейнасці ў беларускім асяроддзі сведчыць аб вялікім зацікаўленні і прывязанасці насельніцтва да драматычнага мастацтва. Вялікі гэты рух — трэба шчыра сказаць — смажыцца ва ўласным соусе. Не памяншаючы ні ў чым пазітыўных бакоў мастацкай самадзейнасці, нельга не заўважыць факту, што не выходзіць яна як правіла паза рамкі сваёй вёскі ці аколіцы — так з пункту гледжання выканаўцаў, як і гледачоў. Толькі ў рэдкіх выпадках арганізавання фестываляў ці падобных аглядаў беларускае мастацкае слова даходзіць да гарадскіх сцэн, прычым — зноў шчыра — на ўзроўні, які з абгрунтаваных прычын не можа раўняцца з выкананнем прафесіянальных артыстаў сцэны.

Урэшце раўнанне мастацкай самадзейнасці з прафесіянальным мастацтвам не мае вялікага сэнсу, таму што самая аснова і задачы абодвух гэтых напрамкаў мастацтва зусім розныя. Трэба толькі звярнуць увагу на адну, на мой погляд, важную акалічнасць. Пераважная частка самадзейнікаў — людзі маладыя, часта школьная моладзь. Сярод іх ёсць немалая колькасць здольных, таленавітых людзей. Самадзейнасць не стварае ім жыццёвых перспектыў. Іх мастацкая дзейнасць кончыцца як правіла аднначасова з заканчэннем школы, залажэннем сям'і і г.д. Гінуць так натуральнай смерцю неразвінутыя таленты і здольнасці. Сам факт існавання тэатра самадзейнічаў бы росту зацікаўлення нашай моладзі такімі напрамкамі навукі як драматургія, рэжысерыя, літаратура, мастацтва і г.д., што нарэшце не магло б не ўплываць на грамадскі і культурны аванс моладзі.

Здаецца, што дзейнасць беларускага тэатра ў Беластоку павінна б быць у асноўнай меры накіравана на абслугоўванне культурных запатрабаванняў насельніцтва беларускіх вёсак, мястэчак і павятовых гарадоў, словам, усіх тых асяроддзяў, дзе існуюць да таго адпаведныя ўмовы. Грамадская патрэба такога мерапрыемства хіба несумненная.

Няма ніякага сумнення, а пацвярджае гэта шматгадовая практыка нашых мастацкіх калектываў і эстрады «Лявоніха», што беларускае насельніцтва на Беласточчыне з радасцю і карысцю для сябе прывітала б новы, важны ачаг культуры — Беларускі тэатр.

Здаецца таксама, што ажыццяўленне такога мерапрыемства не павінна не выклікаць зацікаўлення з боку Міністэрства Культуры.

Арганізацыя тэатра — справа складаная. Патрабуе яна і фінансавых сродкаў і часу на падрыхтоўку кадраў акцёраў, рэжысёраў і рад іншых мерапрыемстваў. Менш складанай з'яўляецца аднак тая ісціна, што чым хутчэй пачнецца арганізаванне гэтага вялікага мерапрыемства, тым хутчэй Беларускі тэатр прыступіць да нармальнай працы.

Несумненна вялікія магчымасці ў гэтай галіне мае Беларускае грамадска - культурнае таварыства. Праўда, не Таварыства будзе займацца непасрэдна справамі арганізавання і вядзення тэатра, тым не менш БГКТ — як грамадская арганізацыя можа і павінна аналізаваць патрэбы беларускага насельніцтва ў гэтай справе і прадстаўляць іх адпаведным уладам. І далей. Стаім таксама напярэдадні IV з'езда БГКТ, які хіба найбольш аўтарытэтна можа заявіць аб грамадскай і культурнай мэтазгоднасці пакліканяя да жыцця гэтага яшчэ аднаго ачага культуры беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

Ю. ТУРОНАК

ЛАРЫСА ГЕНІЮШ

## ЗЯМЛЯ

Дарога полем, вузкая,
Сярод пяску і траў.
І рэкі, дзе над русламі
Народ наш асядаў.
І гоні пладавітыя,
Адвечных пушчаў след.
Там, недзе, пад блакітамі
Другі адкрыўся свет.
Мільёны міль паветраных,
Ніякага жылля.
Адтуль такой маленькаю
Здаешся ты, Зямля...
Дарогай найшырэйшаю,
Што вокам не абняць,
Лятаюць найсмялейшыя,
Каб думы зор пазнаць.
Лятаюць недасягнена,
Высоты ўмеюць браць,
Каб зноў губамі прагнымі
Прыпасці, цалаваць,
І за пачыны смелыя,
За мілі высаты
Узяць з рук кветкі белыя,
Што ўзгадавала ты!
Далоні сціснуць братнія,
На ногі моцна стаць,
І лаўры, ў небе зжатыя,
Табе, Зямля, аддаць.

ВІНЦУК САВА

## КАВАЛАК САЛА

### 1. СУМНАЯ НАВІНА

Ганна неспакойна пагдядала што хвіліну ў акно. Сцямнела, а муж не вяртаўся з Беластока. Трывога штораз больш закрадалася ў сэрца. Мімаволі прыпомніўся сын суседа Дубоўкі, Пятрук. Здаецца, і цяпер чуе звонкі смех гэтага вясёлага хлопца. А ён ужо другі месяц ляжыць у мерзлай зямлі, падзюраўлены фашысцкімі кулямі. Пайшоў у Беласток купіць крыху солі. Трапіў на аблаву. Прабаваў уцячы. Многа цяпер трэба, каб напароцца на бяду!

Думкі перарвалі водгукі цяжкіх крокаў. Бразнула клямка, і ў хату ўвайшоў сусед Макар, з якім бацька ранкам паехаў у Беласток.

Прывітаўшыся сярод агульнай цішыні, ён сеў на лаву, выцягнуў з кішэні капцюх, адарваў кавалак газеты і пачаў круціць папяросу.

Усе насцярожана глядзелі на Макара, з прагнасцю чакаючы яго слова, а адначасова баючыся, што згасіць яно іскру надзеі, якая свяцілася недзе глыбока ў мазгах.

Макар, паслініўшы газету, зляпіў папяросу, чыркнуў запальнічкай, зацягнуўся дымам і з дымам выпусціў з сябе тры словы:

— Сцяпана забралі хапуны.

Ганна заламала рукі і загаласіла, як па нябожчыку. Міхась пачаў смаркаць носам. Толькі Янка маўчаў.

### 2. АХВЯРНАСЦЬ ЯНКІ

Калі малако зімовай раніцы пачало сачыцца праз акно, Янка ўстаў, узяў торбу, улажыў бохан хлеба.

— Куды гэта ты? — спытала неспакойна маці.

— Паеду замест таты ў Нямеччыну, — адказаў Янка і ускінуўшы торбу на плечы, вышаў з хаты.

Ганна, астаўбянеўшы, доўга глядзела на дзверы, як бы не верачы, што гэта не сон, а ява. Калі ж апамяталася, выбегла ў камору, схапіла апошні кавалачак сала і вылецела на двор. Хай бы ўзяў на дарогу. Але Янка ўжо быў далёка. Ён хутка, як бы ўцякаючы ад сваіх думак, аддаляўся ад дому. А Ганна з раскудлачанымі валасамі, без кофтачкі, у бязладна накінутай спадніцы, стаяла на марозе з кавалкам сала ў руках.

### 3. ДАРОГА Ў НЕВЯДОМАЕ

Янка ішоў не аглядаючыся, баючыся, што, убачыўшы родную вёску, якую ён пакідаў, — хто ведае, ці не назаўсёды, — расплачацца, як дзіця.

Вось сенажаць, на якой ён хлапчуком пасвіў увосені кароў. Колькі яму было тады гадоў? Мабыць, сем ці восем. Памятае, прыходзіў нейкі пан, загадваў ісці ў школу, нават штрафам пагражаў. А кароў хто будзе пасвіць?

Было не да навукі. Трэба было думаць пра кавалак хлеба. А прыходзіўся ён нялёгка. Вясной бацьку прыходзілася пазычаць збожжа ў багатых суседзяў. А пасля трэба было адрабляць. А свая работа таксама не чакала. Ледзь адросшы ад зямлі, Янка браўся за серп і касу. Хутка стаў пасля бацькі другой асобай у сям'і.

(Працяг на стар. 4)

 

# АД МЕЛІЯРАЦЫІ ДА КАНСЕРВАЦЫІ У ГАЙНАЎСКІМ ПАВЕЦЕ

10 мільёнаў злотых — вялікая сума грошай. А гэта толькі ж выносяць ужо ад двух год сярэднія фінансавыя ўклады дзяржавы на меліярацыю ў Гайнаўскім павеце. Павет, гаворачы праўду, давол: вялікі, ахоплівае 153 вёскі і звыш 30 000 га лугоў і паш, аднак такой сумы грошай накіраванай на інвестыцыі ніколі яшчэ да гэтага часу не меў.

Сёння ніхто ў павеце не наракае, што не хапае сродкаў на сельскагаспадарчыя інвестыцыі. Наадварот, Прэзідыум ПРН, партыйныя ўстановы, ЗСЛь, а таксама і сельскагаспадарчая служба ламаюць галовы над тым, як належна выкарыстаць прызначаны ліміт. Не заўсёды гэта добра атрымоўваецца. Вось, напрыклад, у мінулым годзе міма вялікіх намаганняў праграма меліярацыйных інвестыцый была выканана толькі ў 85%. Не былі выкарыстаны 1,4 млн. зл. Праўда, 1962 год быў для меліярантаў выключна цяжкім годам, але ці ў гэтым вінаваты толькі дождж? Павятовыя ўлады добра ведаюць, што за ўсё тое, чаго не ўдалося зрабіць, нельга абвінавачваць толькі атмасферныя ўмовы. Так як і рэалізацыю меліярацыйных планаў нельга зводзіць толькі да пабудовы новых меліярацыйных абсталяванняў.

Меліярацыя не з'яўляецца мэтай самой па сабе. Зразумела, гэта інвестыцыя дахадовая, але пры ўмове, што зямеліраваныя ўгоддзі будуць утрыманы ў належным парадку, а меліярацыйныя абсталяванні атрымаюць належную апеку. Гэтыя каштоўныя аб'екты патрабуюць карпатлівай працы чалавека не толькі ў час іх будовы, але таксама і тады, калі яны служаць чалавеку.

Клопаты пра добрае функцыяніраванне існуючага ўжо меліярацыйнага абсталявання, яго сістэматычная кансервацыя, а таксама ўласцівае загаспадараванне зямеліраванай тэрыторыі з'яўляецца важным элементам у дзейнасці ПРН, грамадскіх рад і меліярацыйнай службы ў павеце.

У 1962 годзе міма неспрыяльнага надвор'я планавыя заданні ў галіне кансервацыі меліярацыйнага абсталявання былі поўнасцю выкананы, аднак не ўсюды былі яны праведзены своечасова. Здаралася, што карыстальнікі не хацелі займацца кансервацыяй. За такую нядбайнасць пакаралі 19 карыстальнікаў на суму 7 тысяч зл. Усе сяляне павінны ведаць аб тым, што нават самыя вялікія сродкі дзяржавы не змогуць гарантаваць поўнай пасляменіярацыйнай карысці, паколькі самі не будуць памятаць аб патрэбе тэрміновага правядзення кансервацыі.

**Язэп Казак**



## АГЛЯД СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ МАШЫН

Нядаўна ў Супраслі адбыўся агляд новых сельскагаспадарчых машын з ГДР. Былі яны паказаны ў Польшчы ўпершыню. Усе яны будуць на Познанскім кірмашы.

На здымку: у час супрасльскага агляду — трактар з камплектам (бакавой завешванай жняяркай, талерачнай бараной і прычэпам).

Фота: **Ю. Рыбінскі**

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

[4]

### НЕВЫЧЭРПНАЯ КРЫНІЦА БАГАЦЦЯ

Расліны ў нейкай ступені можна параўноўваць з чалавекам. Яны таксама адчуваюць смагу і голад. Моцна рэагуюць на недахоп паветра ў глебе. Жывуць, растуць, запасяць карысныя рэчывы. Аб ураджаі вырашае сума розных дзейнікаў.

Пагаворым аб угнаенні. Шматлікія доследы паказваюць, што прымяненне ўгнаення на пастаянных зялёных угоддзях яшчэ больш аплачваецца, чым на раллі. На гэта нядаўна звярталі ўвагу на Пленуме КВ ПАРП у Беластоку.

У нас запушчаныя, недагледжаныя лугі, а яшчэ горш пашы. Ёсць у нас яшчэ сяляне, якія лічаць, што высеў угнаення на лугі і пашы — гэта непатрэбнае марнаванне грошай. А ў той жа час вядома, што зялёная маса з няўгноеных лугоў мае 7,91% бялка і 1,9% тлушчу. Калі прыменім калій і фосфар, даб'емся 11,46% бялка і 2,57% тлушчу. Таксама выглядае і справа з ураджайнасцю з гектара. 1 га зялёных угоддзяў без угнаення дае ў сярэднім каля 114 ц, а пасля прымяненне калія, фосфару і азоту — 294 ц. Добрыя вынікі даюць азотныя ўгнаенні. 40 кг азоту на гектар дазваляе атрымаць корм, якога хопіць, каб надаіць 4399 кг малака, а норма ў выглядзе 120 кг азоту — 6587 кг. Дзякуючы ўгнаенню на кожны гектар пашы можа прыходзіцца не 2 каровы, а 4—5.

Сельскагаспадарчая практыка прызнае 3 тэрміны ўгнаення: вясной, пасля 1 пакосу і пасля II пакосу (Гэта датычыць азоту. Іншыя ўгнаенні высяваем восенню). Розныя нормы азоту трэба на тарфяных і мінеральных глебах.

Калі луг знаходзіцца на тарфяных глебах, дык даем на гектар 100—120 кг калія, 35—45 кг фосфару і каля 15 кг азоту. На мінеральных глебах трэба даць 80—100 кг калія, 35—45 кг фосфару і 30—40 кг азоту.

Незалежна ад мінеральнага ўгнаення добра даць і арганічнае. Ва ўмовах нашага ваяводства будзе гэта найчасцей кампост (300—500 ц). Можна з гэтай мэтай выкарыстаць і гнаёўку, гарадскія і прамысловыя сцекі. Аб натуральным гноі не ўспамінаю, бо яго трэба выкарыстоўваць у першую чаргу пад культурныя расліны.

*

На Беласточчыне ёсць звыш 500.000 гектараў лугоў і паш. Гэта велізарнае багацце. Дзякуючы меліярацыі, загаспадараванню, адпаведнаму догляду і выкарыстанню яны павінны даць нашым сялянам сур'ёзны даход.

Інж. **М. Сухажэбрскі**

# НАСТАЎНІКІ І МОЛАДЗЬ

Цяжка пераацаніць ролю мастацкай самадзейнасці на вёсцы. Яна дае магчымасць арганізаваць культурны адпачынак моладзі, садзейнічае згуртаванню калектыва, развівае пачуццё прыгожага. У Ляўкове з'яўляецца яна добрым стымулам у вучобе, бо ў нас больш 20 членаў мастацкай самадзейнасці, якія пасля 7-мі класаў пачалі працаваць на гаспадарцы, ходзяць на курсы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі і ў хуткім часе будуць прымаць экзамены за 9 клас. Настаўнікі В. Цялушэцкі — кіраўнік школы ў Старым Ляўкове і Міхась Івацік — мясцовы педагог шмат дапамагаюць моладзі падняць мастацкую самадзейнасць на вышэйшы ўзровень. У маі г.г. моладзь уступіла ў гурток БГКТ. Старшынёй з'яўляецца Анаталь Несцярук. Ён патрапіў арганізаваць 23-асабовы гурток самадзейнікаў. У гурток уступіла моладзь Ляўкова і яго акалічных вёсак: Падляўкова, Ахрымаў, Капітаншчыны. Моладзь хоча працаваць і прыцягнуць да сябе маладых юнакоў і дзяўчат з вёскі Ляшукоў. На адным са сваіх сходаў моладзь прыступіла да апрацоўкі камедыі «Міхалка», падабралі ролі, паўтарылі даўно завучаныя мелодыі беларускіх і рускіх песень. Найбольш актыўнымі з'яўляюцца: Іра Адамюк, Нюра Бачынская (Ахрымы), Вася Ахрымюк, Ніна Халаловіч, Шура Адамюк, Лёня

(Працяг на стар. 7)

# КАВАЛАК

(Працяг са стар. 1)

Але якая сіла гоніць яго ў няволю? Сядзеў бы цяпер у цёплай хаце. «А можа вярнуцца?» — мільганула ў думцы. Сэрца балюча зашчымела. Не, вярнуцца не можна. Бацька, праўда, чалавек здаровы, але ўсё ж яму 50 год. Ці вытрымае рабскую працу?

«Але чаму я павінен выручаць бацьку», — абудзіўся ў думцы пратэст. «А бацька мала разоў цябе выручаў?» — адказваў другі голас.

І яму немаведама чаму прыпомнілася асенняя раніца. На двары яшчэ непраглядная ноч. Так прыемна спіцца ў гэты час. А бацька пры тухлым святле газнічкі апранаецца, паўстрымоўваючы кашаль, каб не разбудзіць сям'ю. Пакуль усе ўстануць, ён, агледзеўшы жывёлу, улажыўшы ў кішэню акраец хлеба, пойдзе на работу, каб за 10 гадзін нявольніцкай працы атрымаць 2 зл.

Чаму гэта прыпомнілася? Мусіць таму, што за гэты заробак быў яму спраўлены першы гарнітур, якім ён так ганарыўся.

Цяпер ён з поўнай яснасцю ўсведаміў, што дом, гаспадарка станавілі для яго як бы крэпасць, якую пакінуўшы, чуўся слабым і бездапаможным. А гарнізонам гэтай крэпасці была яго сям'я: бацька, маці, ён і Міхась.

Усё вакол гэтай крэпасці, калі не варожае, дык чужое. А суседзі, яны добрыя, калі маеш што есці. Толькі на бацьку і маці можаш лічыць заўсёды, яны цябе ніколі не пакінуць, памогуць пакуль знаходзішся ў крэпасці. А вось выедзеш у Нямеччыну, там ніхто над табой не зжаліцца. «Усе за аднаго, адзін за ўсіх» — прыпомнілася яму прачытанае недзе ў кніжцы. «Мудра сказана», — падумаў, і ў яго ўяўленні ўсё зводзілася да яго сям'і. Ды ці сапраўды ўсё? Вось Міхась, ён толькі пра сябе думае. Матка неяк заўсёды больш ласкава падыходзіла да Міхася. Ён і паспаў даўжэй і ласунак які дастаў. А да цяжэйшай работы ён не гарнуўся. І цяпер яшчэ бакі абівае. Яму хоць бы што.

Вось і горад. Колькі тут людзей! А Янка чуўся як бы на пустыні. Як бы было добра, каб мець тут кагосьці блізкага, ну хоць бы Міхася.

### 4. ЯНКА ВЯРТАЕЦЦА ДАМОЎ

Заціхлі апошнія стрэлы. Янка з тысячамі іншых вяртаўся дамоў.

Вось і Варшава. Мора грузу і попелу. Дзе-нідзе кратаюцца людзі з лапатамі, ламамі. Ці ж змогуць мурашкі зраўняць гору? Так дробнымі выглядаюць людзі ў агроме чакаючай іх работы.

А вось замёршы комін тырчыць недарэчна да неба на разбураным корпусе фабрыкі. І тут група рабочых.

— Колькі вам плацяць? — пацікавіўся Янка. «Хто ведае, як там з гаспадаркай», мо' і самому прыдзецца пайсці на заробак».

— Пакуль нічога. Але вось уладзіцца — усё заплацяць. Улада цяпер нашая, — адказаў рабочы. — Вось закасвай рукавы ды бярыся за работу.

— Спяшаюся дамоў, на гаспадарку, — тлумачыўся Янка. «Як жа добра, — думаў ён, — што вяртаюся дамоў і буду працаваць для сябе, не чакаючы нічыёй ласкі!»

### 5. ЯНКА І МІХАСЬ

Работа ў Янкі кіпела ў руках. Ён быў моцным мужчынам. Зрабіўшы ўсё, што трэба па гаспадарцы, ён ішоў на заработкі, якіх цяпер кожнаму хапала. Ён купіў каня, гадаваў дзве каровы, гадаваў свіней. Ён зрабіўся фактычным гаспадаром, і без яго рады нават бацька не рабіў нічога.

Затое Міхась не прыкладаўся асабліва да працы. Ён любіў хораша адзецца, добра з'есці і выпіць з сябрамі. Янка глядзеў на гэта крыва, часам пабурчэў пад носам, але быў згодлівы, не любіў звад.

Але справа Міхася хутка вырашылася. Пазнаўшы багатую дзяўчыну ў суседняй вёсцы, ён пайшоў у прымы. Праўда, што каштавала нямала. У пасаг далі дзве каровы, свінню, грашмі некалькі тысяч, дый вяселле каштавала. Затое Янка цяпер адчуваў сябе поўным гаспадаром...

### 6. ЦЁШЧА І НЯВЕСТКА

Незадоўга Янка ажаніўся. Жонка трапіла згодлівая і пільная. Яна ахвотна бралася за ўсякую работу. Матка пачаткова была задаволена. Пасля гэта яе пачало нерваваць. Яна пачулася непатрэбнай, пагарджанай, забытай.

«Выгадавала гэтую дубіну, вынасіла на руках у бяссонныя ночы, выплакала рэчку слёз, а цяпер чужая жанчына завалодала яго сэрцам, яго думкамі. Матка непатрэбная. У гаспадарцы, дзе кожны прадмет зліты маім потам, распараджаецца, як сваім, чужая жанчына».



 

 

Л. МАЙСЕЮК

# „НЕ ТУРБУЙСЯ — ТУТ ТЫ ЗНОЙДЗЕШ ДАПАМОГУ...”

Будынак Прэзідыума ваяводскай рады нарадовай у Беластоку. II паверх, пакой 137. На дзвяра: надпіс: Аліментацыйная секцыя Польскага камітэта грамадскай дапамогі. У калідоры доўгая чарга жанчын. Чакаюць...

Не з дабра переступаюць кабеты гэты парог. Прыводзіць іх сюды часцей за ўсё бяда. У кожнай быў калісьці «свой» муж, быў, ды прапаў недзе, пакінуўшы за сабою адзіны след: дзяцей, якім трэба даць есці, якіх трэба апрануць, вучыць, проста гадаваць. З-за дзвярэй даходзяць аднастайныя, манатонныя галасы. Усе справы страшэнна падобныя адна на другую, ва ўсіх амаль той жа прыгожы пачатак і такі сумны канец!

— Панічка, — кажа адна кабета, — след па ім загінуў, а я ні залатоўкі пры душы! Двое дзяцей жа, чым іх карміць?!

— Мілая вы ж мая, — звяртаецца да кіраўніка секцыі, суддзі ваяводскага суда, грамадзянкі Сержук другая жанчына, — ён мне плаціць, як яму прывіне! Раз прыдуць грошы, раз няма...

— Я не магу даць рады, — гаворыць трэцяя. — Што можна зрабіць за дзвесце злотых, калі двое дзяцей на карку?

І гэтак праз некалькі гадзін, па дзесяць, дваццаць нават кабет у дзень. Усе справы падобныя, ва ўсіх адзін пачатак і канец.

— Заданне нашай секцыі, — кажа суддзя Сержук і ўсміхаецца, — гэта, дасціпна гаворачы, пераконванне ўсіх, каб яны рабілі добраахвотна тое, да чаго іх забавязвае не толькі сумленне, але і параграф! Мы намаўляем задоўжаных бацькоў да ўплачвання належных грошай, мы просім у каморнікаў больш рашучых мер, урэшце мы пераконваем суд у тым, што бацька хоць і плоціць, усё ж такі часта плоціць замала! Зараз, — працягвае яна, — у нас зарэгістравана 74 справы, ды яны прыбываюць штодня. А секцыя наша маладая, не ўсе патрабуючыя жанчыны аб ёй ведаюць.

— Вы, значыць, проста ўпаўнамочаны весці гэтыя ўсе справы перад судом? — пытаюся.

— Так, нас упаўнамочваюць жанчыны. Ды мы ж не толькі так сказаць «афіцыйна» выступаем перад судом! Мы памагаем кабетам размовай, парадай, інтэрвенцыяй ва ўстановах... Тут адзначу адну нештодзённую з'яву, асаблівасць толькі нашага ваяводства. Менавіта ўсе адвакаты ў Беластоку справы секцыі перад судом вядуць бясплатна. Гэта грамаднае аблягчэнне і помач. Становішча нашых беластоцкіх адвакатаў сустрэлася з зацікаўленнем у Варшаве...

— А што характэрна для працы секцыі? — перарываю.

— Наш дэвіз — лагоднасць! Павінна вам сказаць, што было шмат такіх спраў, дзе толькі мы маглі дайсці да паразумлення з задоўжаным бацькам. Ён ахвотна даўся пераканацца і плоціць рэгулярна.

— Значыць, былая жонка не мела ўжо на яго ніякага ўплыву?

— Вось у тым то і справа, што ёсць яшчэ жанчыны, якія лічаць аліменты аружжам у барацьбе з мужам, які паспеў пакінуць сям'ю. І адгэтуль падобныя справы.

— Як бы вы падзялілі сваіх наведвальнікаў?

— Іменна на тых, якіх прыводзіць сюды бяда, і тых, якія больш увагі звяртаюць на так сказаць «маральны бок справы», як я ўжо вам гаварыла. Ну, гэтых зразумела меншасць, хоць гэта таксама свайго роду праблема, да якой вырашэння мы дасканала надаемся.

— Можа яшчэ нейкую сенсацыю з вашых спраў, — прашу ў суддзі Сержук.

— Калі ласка. Усе наогул пераконаны, што аліменты плоцяць, або не хочуць плаціць бацькі. Тым часам ёсць у мяне справа, дзе якраз жонка пакінула мужа з пяццю дзяцьмі і ні за што не хоча плаціць!

— Значыць, гонар мужчынскага роду падратаваны? — смяюся.

— Выходзіць так. Ды і наогул ёсць шмат мужчын, якіх мы ў сілах пераканаць адной размовай. Яны надзвычай здзіўлены, што іх не лаюць, ім не пагражаюць, як гэта часценька робяць жонкі, а проста тлумачаць, што гэта іх абавязак, і калі не выканаюць яго — справа пойдзе ў суд. Тут між іншым таксама плюс секцыі.

Трэба адзначыць, што размовы, якія праводзіцца ў секцыі, характарызуюцца спакойным тонам. І гэта мае свой уплыў. А найважнейшае хіба тое, што кожная бездапаможная жанчына тут знойдзе помач і добрае слова. Тым больш цэннае гэта для ўсіх тых, хто не зможа ў жыцці «распіхацца локцямі». Запішыце: Прэзідыум ваяводскай рады нарадовай. Беласток, вуліца Міцкевіча 6. Пакой 137. Аліментацыйная секцыя Польскага камітэта грамадскай дапамогі. Дні прыняцця: панядзелкі і пятніцы. Гадзіны: ад $16^{00}$ да $18^{00}$.

## Да Міжнароднага з'езда славістаў у Балгарыі

Восенню г.г. у Сафіі адбудзецца чарговы V Міжнародны з'езд славістаў. Гэтае вялікае навуковае мерапрыемства згуртуе выдатных знаўцаў гісторыі паасобных славянскіх літаратур, а таксама даследчыкаў міжславянскіх літаратурных адносін. Да гэтай падзеі падрыхтоўваюцца зараз і польскія славісты. Выйдуць у прыватнасці з друку спецыяльныя працы і публікацыі. Польскае людазнаўчае таварыства, напрыклад, выпусціць у жніўні спецыяльны нумар свайго органа «Літаратура людова», якога тэматыка будзе шчыльна звязана з гэтай падзеяй. Адзначым тут, што сярод аўтараў сафійскага нумару «Літаратуры людовай» апынікца таксама і журналіст «Нівы» Мацей Канапацкі, які падрыхтаваў працу п.з. «Элементы фальклору татараў на польска - беларуска - літоўскім пагра-

(Працяг на стар. 7)

# БАГУШЭВІЧ — ЖУРНАЛІСТ

(Працяг са стар. 3)

розныя фірмы выступілі з 270 экспанатамі. Паэт наракае, што дагэтуль гэтыя выстаўкі былі вельмі слабыя, амаль так слабыя «як узровень сельскай гаспадаркі ў нашай краіне» («Край», 1888, № 39).

Асабліва шмат карэспандэнцый, закранаючых пытанні гарадскога жыцця, знаходзім у 1889 годзе. У іх Багушэвіч праяўляе энергічныя клопаты аб справах культуры ў самым шырокім сэнсе гэтага слова. Вось піша аб неабходнасці пабудовы новага тэатра, таму што аднаго для горада з 120 тыс. жыхарамі ўжо не хапае. Паэт крытыкуе ўраднікаў гарадскога савета, якія ўвесь час адкладаюць пабудову тэатра і займаюцца толькі бюракратычнай перапіскай («Край», 1889, № 15). З выключна вялікай сілай абрушваецца Багушэвіч на абыякавыя адносіны віленскіх гарадскіх улад да асветы, на якую, як адзначае, прызначана толькі 6 тысяч рублёў. І тут дае нам цікавае супастаўленне з выдаткамі на паліцыю, якая праглынае 90 тысяч рублёў, г. зн. адну трэцюю частку гадавога бюджэту. Аўтар карэспандэнцыі абапіраецца, несумненна, на добра вядомых яму фактах, калі смела сцвярджае, што Вільня выдае найменш грошай у маштабе усёй Расіі на культурныя патрэбы («Край», 1889, № 30).

Уважлівы назіральнік гарадскога жыцця — Францішак Багушэвіч — прысвячаў нямала месца ў часопісе і школьнай моладзі. Адна з такіх карэспандэнцый прасякнута шчырымі клопатамі аб яе здароўе і добрае фізічнае развіццё. Гуляючы па гораду, паэт не раз бачыў бледныя, змучаныя твары вучняў, пазбаўленых умоў належнага ім адпачынку, культурнай, неабходнай маладому арганізму забавы. З вялікім хваляваннем сёння чытаем словы Багушэвіча, у якіх усе думкі гэтага сумленнага і разумнага чалавека паўсядзённа знаходзіліся на баку добрай справы. Ва ўспамянутай карэспандэнцыі паэт клапоціцца пра свежае паветра ў відаць цесным памяшканні Віленскай гімназіі. Ён піша: «Трэба было б задбаць перш за ўсё аб свежае паветра для нашых школьнікаў пакуль з рачункам прыдзе гімнастыка, якую, як вядома, улады павінны неўзабаве ўвесці ў школах у шырэйшым чымсьці дагэтуль маштабе.» У артыкуле аўтар заахвочвае прызначыць у зімовы час Кафедральную плошчу ў Вільні пад каток: «Зімою гэтая плошча дасканала надавалася б пад вучнёўскі каток, на якім маглі б гімназісты старэйшых класаў займацца гэтым прыемным і здаровым спортам» («Край», 1889, № 34).

Не абмінаў Багушэвіч у карэспандэнцыях і спраў тагачасных гарадскіх нізоў — рабочых. Жыва рэагаваў на сацыяльную несправядлівасць, адлюстроўваючы на старонках «Края» вялікае гора і нястачы пралетарыята. Асабліва варты нашай увагі артыкул п.з. «Віленскі пралетарыят і прыезд чужых рабочых» («Край», 1890, № 12). Паэт малюе тут карціну гаротнага жыцця беспрацоўных, надарэмна шукаючых нейкай работы ад ранку да ночы, намагаючыхся здабыць хаця б залатоўку, каб купіць хлеба для галоднай сям'і. Такім чынам Багушэвіч паказвае нам яшчэ адзін бок тагачаснага эксплуататарскага ладу, поўнага вялікай несправядлівасці і патаптання чалавечай годнасці. Хвалявалі Багушэвіча і літаратурныя падзеі. Вітае, напрыклад, выхад новага выдання твораў Уладзіслава Сыракомлі, называючы іх «скарбам». («Край», 1891, № 2). Зусім не здзіўляюць нас такія адносіны беларускага паэта да гэтых твораў, калі прыпомнім, колькі ў яго жыццёвых каляінах знаходзіцца доказаў вялікай павагі да Вясковага лірніка.

Журналісцкая дзейнасць Францішка Багушэвіча, так як і паэтычная творчасць варта вялікай увагі. Яна, адлюстроўваючы адносіны беларускага паэта да праяў тагачаснага жыцця, дазваляе ў больш выразных абрысах убачыць гэтага добрага і светлага чалавека. Аб такіх людзях, як Францішак Багушэвіч, кажам, што пакінулі ў гісторыі частку сябе. Дык не забывайма, што, гаворачы аб ім, мы павінны мець на ўвазе і гэты толькі што прадстаўлены намі бок дзейнасці пісьменніка — дзейнасці таксама каштоўнай і агульнакарыснай.

МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ

# САЛА

У сэрцы маткі нарастала зайздрасць і бунт, якія пературыліся ў антыпатыю да нявесткі. Яна пачала без дай прычыны прыдзірацца да яе, стараючыся ёй дакучыць.

Нявестка ўступала, не адказвала на правакацыйныя зачэпкі, калі не было мужа ў хаце, уцякала да суседзяў. Гэта яшчэ больш раздражняла матку. Хай бы хоць адгрызлася. Была б аказія збэштаць, адвесці душу, разладаваць сэрца, дзе паволі накапілася столькі горычы. А то бач яе! Закруціла хвастом, пайшла пані вялікая, абразілася.

Пры мужу і Янку паўстрымоўвалася. Затое, калі іх не было дома, нявестка не магла падысці да печы, даткнуцца да гаршчка, нават узяць кавалак хлеба.

— Не, гэтага я больш не вытрымаю, — скардзілася яна Янку. — Чым я да яе лепшая, тым больш зьвяром на мяне глядзіць.

— Пацярпі, неяк уладзіцца, — дараджваў муж. І калі толькі мог прысці дамоў, нават здалёк прыходзіў удзень, каб накарміць жонку. Калі ж працаваў далёка, жонка цэлымі днямі была галодная.

Скардзіўся бацьку. Матка плакала, скардзілася, што да яе беспадстаўна чапляюцца. Супакойвалася на некалькі дзён, а пасля паўтаралася зноў.

Трэба было шукаць нейкага выхаду. І тут Янку ўспомніліся рабочыя, якія ўзяліся за адбудову фабрыкі, нягледзячы на тое, ці хто ім заплаціць. Сёння там ужо дымяць коміны, а ад грузу асталіся толькі ўспаміны.

«Кінуць усё гэта к чорту і паехаць дзесьці на Слёнск у капальню. Тысячы там жывуць і жывуць лепш ад мяне. Пражыву і я».

Янка паехаў у Катовіцы. Вярнуўся за чатыры дні, каб уладзіць на час жонку, забраць патрэбныя рэчы.

У хаце выбухла бура. Бацька накрычаў на Ганну, нават біць соваўся. Ганна плакала, заракалася, што ніколі больш дакучаць нявестцы не будзе. Абое прасілі, каб Янка не пакідаў гаспадарку.

Янка вёў у духу цяжкую барацьбу. Ён не давяраў матцы і ахвотна б аддзяліўся. Адначасова яму было цяжка расстацца з гаспадаркай, якую ён сваім мазалём паставіў на ногі, і якая пасля смерці бацькі сталася б поўнасцю яго.

З фабрыкамі, з шахтамі ўсяк бывае. Ён прыпомніў мёртвыя коміны, якія тырчэлі над разваленымі карпусамі фабрык пасля вайны, а гаспадарка заўсёды дасць кавалак хлеба.

— Ну дык што будзем рабіць? — звярнуўся ён нерашуча да жонкі. Жонку нічога не звязвала з гаспадаркай і яна ахвотна адышла б ад сварлівай цёшчы, але яна вычула ў яго тоне нотку просьбы і не рашалася накідаць яму сваёй волі.

— Твая сям'я, ты сам рашай, — адказала яна.

Янка вырашыў застацца.

## 7. КАВАЛАК САЛА

Пачаткова як бы ўсё паправілася. Матка прыціхла і не зачапляла нявесткі. Толькі штораз часцей пачала адведваць малодшага сына Міхася.

Разам з гэтым з дому знікала мяса, сала, масла. Суседзі гаварылі, што бачылі матку з вузялком, часам, не знайшоўшы нікога з сям'і Міхася дома, хавала вузялок у бульбяніку.

Намякнуў пра гэта маці.

— Што ты, зладзейку ўжо з мяне робіш? Ну, занесла яблыкаў. Вунь у садзе вецер накалаціў, на зямлі гніюць. А ў іх жа няма. Дык шкада табе? Вось чаго я дачакалася за свае крывавыя мазалі, чарвівага яблыка шкадуюць!

Доўга так прычытала маці і ў святле яе слоў закід Янкі прыбіраў размеры злачынства.

Янка шкадаваў, што распачаў гутарку на гэту тэму. А яшчэ больш шкадаваў, што згадзіўся астацца на гаспадарцы.

Цяпер зрабіць гэта было б цяжка. Сям'я павялічылася. Прышло на свет дзіця. Жонку з дзіцём пакідаць на доўгі час не хацелася, а сямейнаму чалавеку знайсці кватэру нялёгка. Дый і гаспадарка задоўжана. Пачаў будавацца. Справіў новы інвентар. Трэба было сплачваць даўгі. Не меў сумлення ў гэткай сітуацыі пакінуць самога бацьку, які б з гэтым не парадзіў. Не, трэба падцягваць пояс, а цягнуць лямку. А на дадатак гэтыя вынасы з дому — тады, калі не было чаго даць з'есці жонцы, якая карміла дзіця. Пра сябе ён не думаў. Ён сам прывык да ўсяго.

Прабаваў гаварыць з Міхасём.

— Ты лепш сваёй мазгаўнёй варушы ды менш прыслухоўвайся розным плёткам, — адгукнуўся той. — Патрэбна мне тваё мяса! У мяне свайго хапае, прыдзі, дык і табе кавалак дам.

Янка сцярпеў насмешку брата. Цяжка было знайсці пераконваючы адказ. І было б усё добра, каб далей не знікалі прадукты. Янка скрыгатаў зубамі са

(Працяг на стар. 7)



 

